# ЗАБАЎНЫЯ ГУЛЬНІ

## I. Вясёлы цір

На лістох фанэры альбо картону намалюйце папа, кулака, капіталістага ды іншых нашых ворагаў.

Прарэжце на гэтых малюнках кругленькія дзірачкі. Мішэні гатовы.



Патрэбны яшчэ мячыкі. Яны каштуюць ня вельмі дорага, ад пятнаццаці капеек штука.

Гуляць можна ў час школьнага перапынку ці на зборах груп акцябрат. Можна наладзіць выпярэдніцтвы адзін з другім альбо цэлымі групамі: хто больш разоў пападае мячыкам у дзірку мішэні.

Такі цір—вясёлая, лёгкая і карысная гульня.

## II. Што зрабіць?

Для гэтай гульні патрэбна дастаць гармонік альбо балалайку, 2—3 газэты, кніжку. Хто-небудзь павінен умець іграць.

Адзін з удзельнікаў гульні выходзіць з пакою. Тыя, хто застаўся, думаюць што ён павінен зрабіць: перакласьці кніжку на другое месца, прачытаць што-небудзь з кніжкі.

Калі надумалі, што павінен зрабіць угадчык, яго клічуць. Здагадацца яму дапамагае ігра на балалайцы ці на гармоніку. Калі ён пачынае рабіць правільна, музыка іграе моцна. Калі ён робіць няправільна—музыка іграе цішэй.

У гэтай гульні можна вясёлае злучыць з карысным. Прыдумаць такое заданьне, каб усім было карысна паслухаць: прачытаць якінебудзь верш, апавяданьне ці што іншае.



*Дзіцячая пляцоўка ў вёсцы.*

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год | 1 р. 80 к. |

№ 6 Чэрвень 1930 г.

Адрас радакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25



М. ЧАРОТ

## АДПЛАТА

(З часоў адступленьня белапалякаў).

Ноч прышла... Ад дыму хмары...
Адусюль нясецца крык...
Горад Менск увесь ў пажары—
Баль спраўляе польскі штык...

Сэрца роднае краіны,—
Колькі ты нясеш ахвяр!
Дзе ні глянь—адны руіны,—
Гэта Польшы белай дар.

Наймiт шляхціча-магната,
Польскай арміі салдат,
Беднату б'е, коле брата,
Адступаючы назад...

А здалёку песьні чутны:
Йдзе чырвоны барацьбіт!
Ён свабодны і магутны...
Гэй, дрыжы, капіталіст!

І чакае люд працоўны,
Покуль выгляне прамень,
І заместа ночы цёмнай
Прыдзе жданы, ясны дзень...

Вось і раніца... ўздыхнулі.
Люд працоўны стаў вялік.
І зладзеям сьмерці кулі
Шле ўздагон чырвоны штык.





# ДЗЕНЬ, ЯКІ ПРЫНЁС ВЫЗВАЛЕНЬНЕ

*ГЭТА БЫЛО 11-га ЛІПЕНЯ*

У 1919 годзе польскія паны ўзьнялі вайну супроць Савецкай улады. Польскім паном памагала ў гэтай вайне буржуазія і іншых заходніх краін. Буржуазія спадзявалася, што яна пераможа нялюбыя ёй Саветы і адновіць у быўшай Расіі стары парадак.

Савецкая краіна ў той час ваявала з многімі царскімі генэраламі. У нас панаваў голад, страшэнная беднасьць. Усё багацьце краіны было разбурана вайною. І вось белапалякі скарысталі такі зручны для вайны момант. Яны захапілі амаль палову Беларусі — аж да ракі Бярэзіны.

Польскія паны адразу-ж пачалі аднаўляць у нас старыя парадкі. Бізун памешчыкаў і жандараў засьвістаў па сялянскіх сьпінах.

За нязначную правіннасьць супроць пана ці закону каралі сьмерцю.

Але польскія бандыты нядоўга раскашаваліся. Магутная Чырвоная армія пры дапамозе рабочых і сялян 11-га ліпеня 1920 г. вызваліла Менск, а разам з ім і значную частку Беларусі ад белапольскай навалы.

Пры адступленьні ашалелыя польскія бандыты пускалі з дымам і пажарам цэлыя гарады і вёскі. Жудасныя малюнкі прадстаўлялі з сябе такія гарады, як Барысаў, Менск. Людзі кідалі вёскі і мусілі хавацца ў лясох, каб застацца жывымі... У лясох стварaліся цэлыя партызанскія атрады, якія памагалі Чырвонай арміі біць ворага.

Гэтак распраўлялася азьвярэлае панства з рабочымі і сялянамі Савецкай Беларусі. Гэтак яно зьдзекуецца і цяпер з рабочых і сялян Заходняй Беларусі, што засталіся пад уладай Польшчы.

Але дні панаваньня польскіх паноў зьлічаны. Беларусь Савецкая і ўвесь Савецкі Саюз расьце і мацнее з кожным днём. Рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі з кожным днём усё больш і больш рашуча выступаюць на змаганьне з панамі, за Савецкую ўладу!

Комуністычная партыя Заходняй Беларусі таксама шырыцца і мацнее. Пад яе штандары ідуць усе прыгнечаныя, усе рабочыя і сяляне. Астатняе і рашучае змаганьне працоўных з панамі вельмі блізка. І ў гэтым змаганьні верх возьмуць рабочыя і сяляне на чале з комуністычнай партыяй. Беларусь Заходняя павінна быць — і яна будзе! — Беларусьсю Савецкай.




У. ДУБОЎКА

Гордымі ўздымамі творчае працы
Мы на руінах будуем палацы.
Заваяваўшы сваё вызваленьне,
Шчасьце будуем мы для пакаленьняў.
Слава героям ліпнёвых паходаў,
Слава героям дваццатага году!
Вышай галовы, шчыльней у калёнах!..
Да перамогі ідуць міліёны.
Гордымі ўздымамі творчае працы
Мы на руінах будуем палацы.
Мы аб'ядваем ля нашых штандараў
Сілу усю беларускіх абшараў.




Апавяданьне А. ЯКІМОВІЧА

Мал. САМАТЫЯ

* * *

Яшчэ толькі што пачало зьмяркацца. Летні вечар напаўняўся здароваю вільготнаю расою. Над балотамі закурыўся лёгкі дымчаты туман. Сонца схавалася за прыгранічным маладым ляском. Толькі спакойныя, нярухомыя хмаркі над лесам яшчэ весела ружавелі і зіхацелі ў залатым сьвятле сонца.

Гэтую спакойную цішыню раптам абудзіў гучны стрэл на граніцы. Цяжкое рэха адгукнулася з глыбіні лесу, і кругом, здавалася, усё зноў занямела. Але гэта толькі здавалася. Стрэл скалануў думкі ўсіх прыгранічных людзей.

— Зноў ахвяра! Зноў забіты...—папоўз шопат па вёсцы.

Усе высыпалі з хат. Такія стрэлы не навіна за апошнія гады. Але ўсялякі такі стрэл балюча раніць сэрца кожнага нашага пагранічніка і селяніна. Бо зазвычай стралялі польскія жандары перабежчыкаў... Тых, хто ня мог вытрымаць панскага прыгнёту і ўцякаў у вольную краіну саветаў.

На ўскрайку лесу, на нашым баку граніцы, знайшлі невялічкі камячок, які ляжаў зусім спакойна. Ляжаў ніцма з распластанымі рукамі; ногі заблыталіся і неяк навярнуліся адна на другую.

Пагранічны вартаўнік падбег і пачаў катурхаць нярухомы камяк. Гэта быў зусім малы, гадоў дзесяці, хлопчык, адзеты вельмі лядашта. На плячох яго вісела брудная, зашмальцаваная торбачка. А з боку пры ім ляжаў выраўчаны бізун.

— Хто такі гэты пастушок?— трывожна пыталіся адзін у другога.

Але ніхто з вёскі яго ня ведаў.

— Перабежчык,—сказаў пагранічнік.—Яшчэ жывы...

І пагранічнік пачаў аглядаць пастушка.

— Вады! — крыкнуў ён да людзей.

За міг прымчалі поўны збан халоднай вады з крайняй хаты.

Калі хлопчыка адхадзілі, ён вінавата, крадком зірнуў на людзей і нема закрычаў. Яго даставілі ў вёску і зрабілі перавязку...

* * *

Рана пастушка была невялікая—куля трапіла ў правае плячо. Але ад болю і перапалоху хлопчык тады страціў прытомнасьць. Потым хутка акрыяў і расказаў, хто ён.

...Ужо два гады як жыве ён сіратою. Ён быў адзін сын у бацькоў. Жылі яны ў прыгранічнай вёсцы. Кепска, бедна жылі.

І бацька заўсёды праклінаў такое жыцьцё. Потым аднаго разу,—гэта асабліва помніць пастушок Янук,—здарылася самае страшнае для яго жыцьця. У іх хату прышло двое жандараў. Яны арыштавалі бацьку і загадаліісьці ў „гміну“ (валасьць).

Матка пасьля гэтага не магла вытрымаць такога гора. Яна кожны дзень бегала ў „гміну“. І ў адзін такі дзень назад не вярнулася. Потым казалі суседзі, што матку пасадзілі ў вастрог. Яна нейкаму жандару з роспачы разьбіла каменем галаву...

Добрыя людзі аддалі малога Янука да шляхціча Альхіровіча за пастушка.



Янук ня мог спакойна па парадку расказаць, як яму жылося ў гэтага шляхціча. Ён толькі пачаў няясна ўспамінаць, як ён хацеў утапіцца ці павесіцца...

— А як-жа ты надумаўся сюды да нас перайсьці, хлопчык?—



*Яны арыштавалі бацьку.*

запытаўся ў яго пагранічнік.

Янук ажывіўся. Нейкія аганькі радасьці засьвяціліся ў яго сьлязістых чорных вочках.

— А мне дзядзька Мірон нараіў...

— Хто такі дзядзька Мірон?

— Гэта Альхіровічаў парабак,—адказаў Янук.—Ён камсамолец. За бедных ідзе. Мірон мне ўсё расказаў пра вас... Я даўно зьбіраўся сюды. Потым адважыўся: усёроўна, думаю, ці там утапіцца, ці паспрабаваць шчасьця. І я ўцёк увечары з пашы. Каровы пусьціў на самапас, у канюшыну...

...Янука пагранічнікі накіравалі ў горад, у дзіцячы дом.

## КОЛЕКТЫУНА ВЫПІСВАЕМ „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“

Пры Дукорскай 7-годцы імя „16-ці партызан“ організавалася летняя школа. У гэтай школе вучацца і дзеці малодшага ўзросту. Вучні-акцябраты выпісалі для свае школы на ўсё лета 8 экзэмпляраў часопісі „Іскры Ільліча“.

**Г. Фрыд.**

# ЛЮТЫ ПАН

Апавяданьне *А. Цітавай*

Дзень выдаўся на дзіва добры.

Нават маленькі Костусь бегаў па вуліцы ў аднэй кашульцы і крычаў: „Зноў лета!.. Зноў лета!“ А маленькая Марылька адказвала яму: „Вось лета, дык лета, а дзе-ж кветкі?“ Але ня гледзячы на тое, што кветак сапраўды ня было, дзень быў вельмі вясёлы.

На прызьбе аднае хаты сядзіць стары дзед. Ён апранут у кажух. Адну руку схаваў за пазуху, другою падпёр галаву.

„Калі хочаш, то павер,—новы сьвет у нас цяпер“ --раздаецца дружны сьпеў піонэраў, якія шарэнгай ідуць па вуліцы. Дзед падымае галаву. Яго зморшчаны твар асьвятляецца радаснай усьмешкай і ён пільна глядзіць у той бок вуліцы, адкуль ідуць піонэры.

„Піонэр наш маладзец—жураўлю прышоў канец“, чутно зусім каля дзеда.

Піонэры спыняюцца. Адзін з іх, Андрэй, падбягае да дзеда:

— Ну, дзядуля, вось і я да цябе прышоў і колькі таварышоў са мной, паглядзі толькі.

Піонэры падыходзяць бліжэй да дзеда. Дзед радасна глядзіць на іх.

— Дзядуля, ты абяцаў нам расказаць аб сваім жыцьці ў часы прыгону. Раскажы, дзядуля!—пачынаюць прасіць піонэры.

Андрэй садзіцца каля дзеда і прытуляецца да яго.

— Добра, дзеткі, добра... садзецеся во каля старога.

Піонэры хутка разьмяшчаюцца каля дзеда, і ён пачынае сваё апавяданьне:

— Даўно ўжо гэта было. Вось цяпер я гляджу на вас і ня верыцца, што вы дзеці сялян, ня верыцца, што вось гэта мой родны ўнучак, Андрэй, сядзіць тут каля мяне з чырвоным каўняром, што мінула тое ліхалецьце, аб якім я зараз буду казаць.

Вось там,—паказаў дзед рукою на руіны каменнага палацу, якія віднеліся за вёскаю,—стаяў вялікі палац. У гэтым палацы жыў тады пан. Ледзь ня кожнае лета прыяжджаў ён з сваею сям'ёю ў гэты палац. А ўзімку жыў у Маскве ці заграніцаю. Наша вёска і ўсе вёскі нашага цяперашняга сельсавету былі пад яго ўладай. Мне было тады гадоў 12. Бацьку свайго я ня помню, бо яго пан адаслаў у далёкі свой маёнтак, дзе ён і

памёр ад нуды па сваёй сям'і і ад цяжкага жыцьця.

Матка даглядала панскую жывёлу і жылі мы на панскім дварэ ў брудным будынку, дзе зьмяшчаліся ўсе прыгоньнікі. З намі жыў адзін хлопчык, сірата. Звалі яго Костусем. Бацьку яго, Антона, засеклі розгамі на сьмерць. І вось як павялі гэтага Антона на стайню сеч, хворая жонка яго кінулася за ім усьлед ды не дабегла,—павалілася на дварэ і памерла. Праз тры дні пасьля таго, як высеклі Антона, ён памёр. Такім чынам застаўся Костусь сіратою і пачалі даглядаць яго ўсе жанчыны дворніцкай.

Костусь быў худзенькі, слабенькі хлопчык і вельмі дзічлівы. З намі ня гуляў, а ўсё больш сядзеў адзін ці з сабакам Буянам, якога ён вельмі любіў.

Бывала, падыдзе да яго, сядзе паводаль, паложыць яму руку на шыю і сядзіць, размаўляе з ім, ласкуе яго. Дадуць есьці Костусю, ён абавязкова і Буяну занясе кавалак хлеба. І Буян ведаў яго і любіў. Засьне Костусь дзе-небудзь на дварэ, Буян сядзе каля яго і нікога не падпусьціць, пакуль Костусь не прачнецца.

Аднаго разу аконам абвясьціў, што праз тыдзень-два прыедуць у свой палац паны. Пачалі рыхтавацца да іх прыезду. У палацы ўсё чысьцілі і мылі. Прыбіралі, нават, і дворніцкую, і двор.

— Мне ўсё каб блішчэла, як срэбра!—крычаў, бегаючы то сюды, то туды, аконам.

Нам, малым, цяпер і на вочы нельга было пападацца, другі раз на адным чэрствым хлебе і былі цэлы дзень.

Надышоў дзень прыезду паноў. Уся вёска павінна была сустракаць паноў. Усе паадзяваліся ў самыя лепшыя свае вопраткі і вышлі на вуліцу. Прыскакаў на ўздагон стараста, які выехаў раней за ўсіх.

Ён крычаў:

— Едуць, едуць, выхадзі!

Костусь і я пасьвілі гусей у той час каля рэчкі, да якой ішла вуліца старой вёскі. Быў з намі і Буян, які не адлучаўся ад Костуся. Костусь і я часта адбягаліся ад гусей на вуліцу паглядзець, як зьбіраюцца сустракаць паноў. Буяна Костусь пакідаў каля гусей і ён паслушліва ляжаў на беразе. Але вось паказаўся шасьцярык коняй: ехалі паны. Костусь і я прытуліліся за сьвірнам і бачылі як пракацілася буда, якую везьлі прыгожыя коні. Усе сяляне пакланіліся ў пояс. Шмат хто з іх апусьціўся на калені.

Прыехалі паны і пачалося жыцьцё горшае за ранейшае. Кожны дзень крык, плач. Ако-



ТАК ЖЫЛІ ЗА ПАНАМІ. Малюнак П. КУСТОДЗІЕВА.

нам з старастам крычалі і лупцавалі направа і налева.

Вось тут-то скора і здарылася ў нас бяда. Аднаго разу ў поўдзень Костусь і я пабеглі па хлеб, бо нам вельмі хацелася есьці: пасьвілі ад самага раньня гусей і качак. За намі пабег і Буян. Нам трэба было праходзіць каля панскага саду, як насустрач нам бяжыць панскі хлопчык Стась. За ім усьлед сьпяшаецца паненка і нешта балбоча не па-нашаму. Стась, як убачыў нас з сабакам, схапіў кіёк і к нам. Буян забурчэў. Стась падбег яшчэ бліжэй. Буян забрахаў на яго. Стась пабег назад, крычучы і плачучы. Паненка схапіла яго за руку і пацягнула да палацу. Ён усё крычаў і плакаў. Мы хуценька пабеглі ў дворніцкую, схапілі хлеба ды назад. Толькі чуем крык і шум каля палацу. Бачым, бяжыць пан, аконам і панскі слуга са стрэльбай. Аконам разьляцеўся проста да нас ды так стукнуў мне па твары, што аж зоркі з вачэй пасыпаліся. Буян забрахаў ды кінуўся да аконама. Пан закрычаў:

— Страляй у чортавага пса!

Слуга прыцэліўся. Раптам Костусь кінуўся да Буяна і засланіў яго. Дваровы паглядзеў на пана.

— Страляй абаіх сабак,—закрычаў пан,—што глядзіш?

Раздаўся стрэл. Костусь з Буянам перакуліліся. Костусь крыкнуў, скорчыўся, потым выцягнуўся і сьціх. Буян прабег трохі. З галавы яго лілася кроў...

Ня помнячы сябе, я пабег да рэчкі, кінуўся на бераг і праплакаў да вечара. Пасьля таго я доўга хварэў...



# ШПАК

**Апавяданьне вучня П. ПАСТУШЭНІ**

Аднаго разу я з таварышамі ішоў у школу. Ішлі цераз агароды. На аднэй мяжы расла бяроза. На ёй вісела шпакоўня. Шпакоўня была дрэнная, нязграбная. Відаць, нехта ня ўмеючы злажыў яе з брудных дошчак. Але кругом нідзе шпакоўняў ня было. І шпаком паняволі прышлося скарыстаць гэты прытулак. У шпакоўні пішчалі ўжо малыя птушанияткі. Іх матка цэлымі днямі насіла ў гняздо розных казявак і мошак.



Дык вось калі мы ішлі, тут адбылося такое здарэньне. На бярозе села варона. Паскакала з галінкі на галінку, пакружылася. Мы зацікавіліся, што тут будзе, і прыселі за лазовым кустам. Хутка варона скокнула да шпакоўні, усадзіла сваю галаву і выцягнула адтуль шпака. Шпак пішчаў, трапятаўся, але варона хапіла яго дзюбаю за шыйку і кінулася ўніз. Адляцела недалёчка на поплаў і села абедаць. Мы кінуліся туды. Варона тузанулася, каб падняцца са шпаком уверх, але ёй не ўдалося: яна змарылася і не магла ўзьняцца. Калі мы падбеглі, шпак ужо быў задушаны.






Казачка П. ГАЛОТЫ

Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ

***

Многа вякоў на зямлі
Людзі ня гэтак жылі.
Сотні і зімаў і лет
Стары панаваў тут сьвет.
Сьвет кіраваўся панамі,
Збожжа вазілі валамі.
Гора, бяду людзі знালі,
Вечна жыцьцё праклі-
налі.
Цела калечылі, ногі.
Ой і цяжкія-ж дарогі!

***

І раз у дзівосны век
Узяў і стварыў чалавек
[Пашана яму і падзяка]
З жалеза і сталі каняку.



Каб ног ня зьбіваць
у дарозе,
Лягчэй каб на сьвеце
жылося,
У каняці, на дзіва
людзям,



Жалезныя дужыя грудзі.
Грыва на сьпіне высока,
Сьпераду сьвецяць два
вокі.

***

Едзе, едзе паравоз,
Грукаціць: „панёс-панёс!“
Перад ім — скуль ні ўзя-
лася —
Рэчка ў полі разьляг-
лася.
Паравоз заскрыгатаў
І стаў.



Людзі тут не разва-
жалі,—
Бэлек, дошчак назьбі-
ралі,
Сталі дружна працаваць,
Сабе мосьцік будаваць.
Стук, грук,
Стук, стук,
Цок, цок:
Зрабілі масток
На славу, на ўцеху.
Паравоз зашумеў і па-
ехаў.

***

Едзе, едзе паравоз:
„Чах-чах-чах! Панёс-па-
нёс!"
Але раптам — зноў
бяда,—
Перад ім стаіць гара.



Паравоз заскрыгатаў
І стаў.
Людзі зноў давай зьбі-
рацца,
Ухапіліся за працу.
Хто сякераю, хто ломам
На кавалкі гару ломяць.
Стук, грук,
Стук, стук,
Цок-цок!
Жыва стукай малаток!
Каменьне трашчыць,
ляціць.



Паравоз глядзіць —
Стаіць гара,
А ў ёй нара.
Паравоз пастаяў, пады-
хаў
Узяў ды нарою паехаў.
Едзе, едзе паравоз:
„Чах-чах-чах! Панёс-
панёс!"
І гукае: „гу-гу-гу!"
У нары і шум і гул.

*
* *

Едзе, едзе дном гары,
А як выскачыў з нары,
Нібы віхар ён памчаў.
Ажно раптам лес
спаткаў.
Паравоз заскрыгатаў,
І стаў.
Тут народ з вагонаў лезе,
Шум разносіцца па лесе.
Сталі дрэвы высякаць
І дарогу будаваць.
Стук, стук!
Чык, чык!
Папрацавалі троху —
Гатова дарога.
Паравоз тут зашумеў,
запэхкаў,
Узяў ды паехаў.

*
* *

Едзе, едзе паравоз,
Без запінкі едзе скрозь.
„Чах-чах-чах! Панёс, па-
нёс!
Больш балець ня будуць
ногі,
Я кладу, кладу дарогі,
І уночы і удзень
Я вазіць буду людзей.



І паехаў і паехаў
Усім людзям на уцеху.

Ехаў так у даўні час
І прыехаў аж да нас.

(З украінскае)



# ЗЬЛЁТ У ГАЛЬЛЕ

Пролетарскія дзеці ўсяго сьвету сьпешна рыхтуюцца да зьлёту.

20-га ліпеня ў нямецкім горадзе Гальле зьбярэцца 15000 дэлегатаў зьлёту. Палавіна ўдзельнікаў зьлёту—піонэры.

Што гэта такі за зьлёт і для чаго ён склікаецца.

Як вядома, комуністыя ўсяго сьвету маюць між сабою цесную сувязь. Яны ўсе працуюць для




*Мясцовасьць у Нямеччыне, дзе адбудзецца зьлёт.*

аднае справы. У комуністых ёсьць свой міжнародны штаб, што кіруе іх працай, гэта—Комуністычны Інтэрнацыянал.

Комсамольцы і піонэры ўсяго сьвету таксама маюць свой між-



*Буржуі Нямеччыны напалохаліся зьлёту. Яны і іх паслугачы паўстаюць супраць зьлёту.*

народны штаб—Комуністычны Інтэрнацыянал Моладзі (КІМ).

І вось КІМ парашыў склікаць у гэтым годзе зьлёт пролетарскіх дзяцей усяго сьвету. На зьлёце дзеці выявяць свае посьпехі: як яны дапамагаюць старэйшым—комуністым і комсамольцам—у змаганьні за рэволюцыю, супроць буржуазіі і яе парадкаў.

Зьлёт выявіць працу дзяцей і вызначыць чарговыя задачы пролетарскіх дзяцей.

Дзеці Савецкага Саюзу раскажуць замежным дзецям праўду аб сваім жыцьці, аб сваёй працы.

Зьлёт стане моцным падмуркам дружбы пролетарскіх дзяцей усяго сьвету; ён дапаможа ўцягнуць усіх пролетарскіх дзяцей у піонэрскія організацыі.








Верш АСТАПЕНКІ

Малюнкі РОЗАНАВА

Ігналёва мама
Кінула у яму
Са сьмецьцем галёшу.
Галёша старая,
Валу прапускае—
Ня знойдзецца горшай!
— Мамачка, стой!
Галёшы старой
Ты ня кідай,—
Мне яе дай!
Ў атрадзе казалі,
Каб мы зьбіралі
Галёшы старыя,
Паперу і шкло,
Складалі у скрынкі
Адкіды і злом.
— Навошта?—пытае
У Ігналя мама:—
Галёша старая—
Карысьці мала!
І пачаў тут Ігнацік
Так расказваць маці:
— Гэту галёшу
З іншай такою,
Самаю горшай,
Стаптанай,
Старою,
Пусьцяць у ход:
Забяруць на завод.
З гэтых галёшаў,
Старых, няпрыгожых,
Новыя будуць
Галёшы.
А з гэтай паперы,
Бруднай і шэрай,





З гэтай галёшай
Марна зьнікаюць
Вялікія грошы.
У атрадзе казалі,
Каб мы зьбіралі
Уціль для дзяржавы.
Добрая справа!
Каб зносілі ў скрынкі
Паперу і шкло,
Галёшы старыя,
Адкіды і злом...

Зробяць таксама
Новую, мама!
Будзе папера
Ня бруднай і шэрай,
А добрай і чыстай—
Можна пісаць!
Навошта-ж кідаць?!
Анучы, паперы,
Старыя галёшы,
Зусім непатрэбнае,
Самае горшае,—
Усё, што ты часам
Кідаеш у цьвіль,
Завецца разам—
Уціль.

* * *

Назьбіралі злому шмат
У тэй групе акцябрат.





Прадалі і за ўсё гэта
Навыпісвалі газэтаў,
Шмат газэтаў і кніжок
На дзіцячы іх гурток
І увечары Ігнацік
Прачытае казку маці.



# МАЛЕНЬКІ БУДЗЁНАВЕЦ

*Апавяданьне У. Шпіцэра*

— Валодзя, каму ты пішаш ліст? — запыталася маці ў свайго сына.

— Будзёнаму, — адказвае малы шустры хлопчык Валодзя.

— А адкуль ты ведаеш Будзёнага?

— Мне тата пра яго расказваў. Казаў, што ён чырвоны камандзір і вельмі любіць маленькіх „будзёнаўцаў“, такіх, як я.

Спачатку маці жартавала, сьмяялася з Валодзі. Але потым яна пачала заўважаць, што ён кожны дзень падоўгу заглядаецца ў люстра і чагосьці злуецца.



*На агародзе.*

— Чаго ты, Валодзя, такі злосны? — пытаецца маці, і чаго ты гэта ўсё ў люстра глядзіш?

— Гляджу, ці ня вырасьлі ў мяне вусы, як у таварыша Будзёнага...

Усе хатнія рагочуць, а ён, пакрыўджаны, выбягае на двор.

З гоманам сустракаюць дзеці Валодзю: — „Ідзе, кажуць яны, „Будзёны“. А ён як сур'ёзны кавалерысты шагае па двары і загадвае арганізаваць „вайну“, выбірае сам сябе за камандзіра.

Ня толькі свае, але і ўсе суседзі завуць Валодзю „Будзёным“. Ды ён нават і крыўдзіцца, калі яго Валодзем клічуць.

Больш за ўсё баіцца Валодзя цемры. Толькі сонца схаваецца за чырвонаармейскімі казармамі, Валодзя ўжо сядзіць у хаце. У гэты час яго ніяк ня выправіш гуляць.

— Які-ж ты камандзір, ды яшчэ „Будзёны“, — кажа маці, калі ты цемры баішся? Глянь, вунь, усе дзеці гуляюць, а ты ў хаце сядзіш.

Такія словы маткі адразу закранулі гонар Валодзі. Ён вылазіць з-за шафы, храбрыцца і заяўляе:

— Я нічога не баюся.

— Ну, калі так, ідзі-ж даведайся ў чырвонаармейскім клюбе, ці няма там сёньня кіно.

Але ўсё-ж цяжка неяк адважыцца выйсьці аднаму на двор.

— Ведаеш што, мама, я пайду, толькі ты гукні сюды Юзіка цёткі Глашы, няхай мяне крыху правядзе...

З Юзікам яму ўсё-ж сьмялей. Ён у Валодзі „зводным камандзірам“. Юзік яго ў крыўду ня дасьць.

У чырвонаармейскім клюбе ўсе ведаюць Валодзю „Будзёнага“.

Пачынаюцца размовы.

— Скажы-ж „Будзёны“, — пытаецца ў яго чырвонаармеец, — кім ты будзеш, калі вырасьцеш, — буржуем?

— Не, не хачу буржуем, буду комуністым, і разам з Будзёным буду біць буржуяў.

— А чаму гэта ў маршы Будзёнага пяецца:

„З намі Варашылаў
Чырвоны афіцэр“

У нас-жа няма афіцэраў? — пытаюцца зноў чырвонаармейцы.

Навакол ціха, усе чакаюць адказу... Частка чырвонаармейцаў ухмыляецца, частка шопатам гамоняць аб тым, што ён не адкажа.

А ён... Валодзя стаіць сярод усіх чырвонаармейцаў, і толькі чутна ў цішыні, як ён пачынае сьпяваць спачатку марш Будзёнага і чагосьці імкнецца прыпомніць...

І толькі ён даходзіць да слоў „**чырвоны афіцэр**“, як раптам выкрыквае:

— **Чырвоны афіцэр...** тав. Варашылаў чырвоны афіцэр, а раз чырвоны, значыцца ён наш...

— Маладзец, маладзец, — хваляць чырвонаармейцы, — ты будзеш чырвоным камандзірам!

З таго часу Валодзя ўжо не баіцца цемры. Як толькі ўвечары зайграе гармонік, ён ужо ў клюбе сярод чырвоных байцоў.

---

# КАЖАН



Увечары, як пачынае зьмяркацца, вылятае кажан. Увесь дзень ён сьпіць. Схаваецца дзенебудзь у дупле, альбо пад страхою прычэпіцца заднімі нагамі і вісіць уніз галавою. Гэтак спаць яму вельмі зручна, бо потым лёгка адарвацца, калі трэба ляцець. Крыльля ў кажана такія, што яму вельмі цяжка ўзьняцца з паверхні якоганебудзь прадмета.

Кажан вылятае толькі ўвечары ці ўначы: удзень сонечнае сьвятло сьлепіць яго.

Вушы ў яго вялізныя, і ён чуе самы нязначны шум.

Шпарка і спрытна шмыгае ён паміж кустоў і дрэваў, ловячы мух і жукоў.

Праз гэта кажан прыносіць вялікую карысьць нашым садом і агародам.

# ЧЫЙ НОС ЛЕПШЫ



Мухалоў-тонканосік сядзеў на галінцы і глядзеў па баках.

Як толькі муха або матылёк ляцелі блізка каля яго, ён даганяў іх, лавіў і глытаў. Потым зноў садзіўся на галінку, зноў чакаў, выглядаў.

Убачыў недалёка Дубаноса і стаў скардзіцца яму на сваё горкае жыцьцё:

— Вельмі-ж мне цяжка,—кажа,—яду здабываць сабе. Цэлы дзень працуеш, працуеш, ні адпачынку, ні супакою ня ведаеш і бадай заўсёды галодны. Сам падумай: колькі машкары трэба злавіць, каб пад'есьці? А зярнят дзяўбці я не магу: нос у мяне занадта тонкі.

— Так, твой нос нічога няварты!—кажа Дубанос.—Вось мой дык нос! Я ім вішнёвую костачку, як лушпінку, раскушу. Сядзіш сабе на месцы і дзяўбеш ягады. Вось каб табе гэтакі нос!

Пачуў гэта Крыжанос ды і кажа:

— У цябе, Дубанос, зусім просты нос, як у вераб'я, толькі што таўсьцейшы крыху. Вось паглядзі, які ў мяне цікавы нос! Я ім праз увесь год насеньне з шышак вылушчываю. Вось гэтак.

І ён спрытна падхапіў крывым носам яловую шышку і дастаў насеньне.

— Праўда,—кажа Мухалоў, твой нос хітрэй зроблены.

— Нічога вы не разьбіраецеся ў насох!—прахрыпеў з балота бакась-даўганос. Добры нос павінен быць простым і доўгім, каб ім казюлек з твані даставаць зручна было. Паглядзеце на мой нос!





Глянулі птушкі ўніз, а там у сітніку тарчыць нос доўгі, як аловак, і тонкі як запалка.

— Ах,—кажа Мухалоў,—вось каб мне такі нос!

— Пачакай! — запішчалі ў адзін голас два браты-кулікі— Шыланос і Серпанос.—Ты яшчэ, брат, нашых насоў ня бачыў!

Паглядзеў Мухалоў і ўбачыў перад сабою два цікавыя насы— адзін глядзеў уверх, другі— уніз, і абодва тонкія, як іголка.

— Мой нос таму ўверх глядзіць,—кажа Шыланос,—каб ім у вадзе ўсякую дробную жыўнасьць зручна было лавіць.

— А мой нос таму глядзіць уніз,—кажа Серпанос,—каб ім ільга было чарвякоў ды казюлек з травы выцягваць.

— Ну,—кажа Мухалоў,—лепшых насоў ня выдумаеш!

— Падзівецеся, грамадзяне, і на мой носік!—прашаптаў з дзерава шэранькі казадой Сетканос.—У мяне ён малюсенькі, аднак-жа служыць мне і сеткаю і горлам. Машкара, камары, матылькі—цэлымі кучамі ў сетку-горла маё трапляюць, калі я ўночы над зямлёю лётаю.

— Як-жа так? — зьдзівіўся Мухалоў.

— А вось як,—кажа Сетканос,—ды калі разявіць рот,— усе птушкі так і адхіснуліся ад яго.

— Вось шчасьлівы! — кажа Мухалоў.—Я па аднэй мошцы хапаю, а ён ловіць іх сотнямі!

— Эх, вы, машкара!—крыкнуў ім пэлікан Мешканос з возера. —Злавілі мошку—і рады. А таго няма, каб у запас сабе што-небудзь адкласьці. Я вось рыбку злаўлю—і ў мяшок сабе адкладу, зноў злаўлю і зноў адкладу.





Падняў тоўсты пэлікан свой нос, а пад носам у яго мяшок, напоўнены рыбаю.

— Вось дык нос!—крыкнуў Мухалоў,—спрытнейшага ніяк ня выдумаеш!

— Ты, мабыць, майго носа яшчэ ня бачыў,—кажа дзяцел. —Вось пацікаўся!

— А што-ж у ім цікавага?— запытаўся Мухалоў. Самы звычайны нос: просты, ня вельмі доўгі, бяз сеткі і без мяшка. Такім носам яду сабе здабываць цяжка, а пра запас і ня думай.

— Нельга-ж усё толькі аб ядзе думаць,—адказаў дзяцел Дзяўбанос.—Нам, працаўнікам лесу, патрэбна струмант пры сабе мець для цясьлярскай і сталярнай работы. Мы ім ня толькі мошак ловім, але і дрэва дзяўбом: жыльлё будуем і сабе і іншым птушкам. Вось у мяне якое долата!

— Дзіва ды толькі!—кажа Мухалоў.—Колькі насоў бачыў я зараз, а вось сказаць, які з іх лепшы—не магу. Вось што, браткі, станавецеся вы ўсе ў шэраг. Я пагляджу на вас і выбяру самы лепшы нос.

— Выстраіліся перад Мухаловам — Тонканос, Дубанос, Крыжанос, Доўганос, Шыланос, Серпанос, Шыраканос, Сетканос, Мешканос і Дзяўбанос.

Але тут, адкуль ні вазьміся, шэры крумкач Кручканос схапіў Мухалова і панёс сабе на абед.

Астатнія птушкі напалохаліся і разьляцеліся ў розныя бакі.



# РАСІЧКА

(*РАСЬЛІНКА-ДРАПЕЖНІК*)

Ці бывалі вы, дзеці, улетку на імшаным балоце? Праўда, які няцікавы выгляд мае яно. Куды ні глянеш, адзін мох.

Хіба што па краёх балота туліцца дзе-небудзь елачка ды мільгане ў хмызьнякох асінка ці бярозка.

Вось, здаецца, усё, што можна ўбачыць на імшары.

Але-ж гэта ня так.

Давайце прыгледзімся бліжэй да імху: можа там ёсьць што цікавае?

І сапраўды. Той, хто не палянуецца ўважліва пагледзець навокал, напэўна ўбачыць вельмі цікавую расьлінку — „расічку“. Яна маленькая і зусім няпрыкметна прытулілася ў імху. Ды і колер яе таксама зялёна-чырвоны.

Вось глядзеце далей.

Ляціць над балотцам мошка, ляціць і жужжыць на сонейку — вельмі добра яно сьвеціць.

Уздумала мошка адпачыць на траўцы і прысела на яе. Прысела, а цяпер ня ўстане, бо папала якраз на ліст расічкі!

Цікавая штука лісьцё расічкі. Яно сабрана ў кружок і з сярэдзіны яго ўздымаецца стрэлачка з невялічкім лікам маленькіх клетак. Вось і ўся расьлінка расічка.

Але вернемся зноў да нашай мошкі. Як мы бачылі, яна прысела на лісток расічкі і адразу стала адчуваць, што творыцца з ёю штосьці нядобрае. Мошка паспрабавала хутчэй узьняцца і—стой! Адно крыло прыклеілася да нейкіх нітачак, якімі быў утыканы амаль што ўвесь лісток расічкі. А гэтыя нітачкі, „шчупальцы“, варушацца, цягнуцца да другога крыла. Вось абляпілі яны і лапкі і сьпінку і залілі нейкім ліпкім сокам усё цела мошкі.

Мошцы робіцца страшна і балюча. Яна адчувае, як у гэтым соку распушчаецца (так, як соль у вадзе) яе цела, а з ім і яе жыцьцё.

Мошка скончыла свой век, бо яе зьела маленькая, няпрыкметная ў імху расьлінка—расічка.

Прыгледзьцеся, дзеткі, да іншых лістоў расічкі і вы ўбачыце на іх шмат сухенькіх шкурак раней зьедзеных мошак.

**Траўка.**

# ЗРАБЕЦЕ САМІ

## Карлік



*Мал. 1.*

„Карліка на стале“ трэба паказваць у дзьвярах з аднаго пакою ў другі.

Робіцца гэтак. Адзін, меншы, адзяе на рукі сабе панчохі або дзіцячыя боцікі і ставіць іх на стол—гэта ногі карліка. Каб яго самога нельга было пазнаць—сажай падмалёўваюць вусы, бараду і г. д. Другі, большы, з-за яго сьпіны працягвае свае рукі і кладзе іх першаму на плечы. (Малюнак 1).

Гэтыя рукі будуць рукамі карліка. Пад гэтымі рукамі карліка зашпільваюць камізэльку, на плечы адзяюць шырокі плашч або ўкручваюць вялікаю хусткаю ці настольніцай; на галаву адзяюць шапку, капялюш або што іншае. (Мал. 2).



*Мал. 2.*

Той, хто стаіць ззаду, павінен быць закрыты посьцілкай, каб яго няможна было ўбачыць.

Калі будуць паказваць карліка, ён павінен не сваім голасам гаварыць да гледачоў, апавядаючы аб тым, хто ён і адкуль прышоў.

## Слон

Слана робяць удваіх. Хобат слана робяць з шэрай жаночай хусткі. Пярэдні павінен трымаць гэты хобат у руцэ. Абаіх укрываюць вялікай



*Мал. 3.*



*Мал. 4.*

шэрай посьцілкай або хусткай. На месца вачэй прышываюць выразаныя з белай паперы кружочкі з чорнымі кропкамі пасярэдзіне; заместа вушэй прышываюць дзьве рукавіцы; іклы слану робяць з белай паперы, згарнуўшы яе ў трубу. (Малюнак 3 і 4).

## Качка



*Мал. 5.*

Качку робяць гэтак: прывязваюць каму-небудзь да сьпіны кавалак дошкі. Пасьля робяць галаву з клубка, пашытага з белай матэрыі, і ўстаўляюць у яе дзьве трэсачкі—дзюбу; нарэшце ўсё гэта накрываюць посьцілкай, а тое месца, дзе павінна быць шыя, перавязваюць стужкаю. Хвост робяць з стужачак паперы, а лапы—з тоўстай паперы. Крыльцы і вочы можна намаляваць. (Малюнак 5).



*Мал. 6.*

## Вялікан

Вялікана робяць так: самы найвялікшы садзіць сабе на плечы самага маленькага. Пасьля адзяюць яго так, як паказана на мал. 6.

## Вярблюд

Для вярблюда патрэбны тры асобы. Пярэдні павінен быць большы за дваіх іншых. Галаву вярблюда робяць з цьвёрдай, тоўстай



*Мал. 7.*

паперы і малююць на ёй фарбамі альбо атрамантам рот, вочы і г. д. Пярэдняму адзяюць на галаву зробленую галаву вярблюда і потым накрываюць усіх іх вялікаю шэраю хусткаю альбо посьцілкай. (Мал. 7).



заяц



карова

**Пры дапамозе рукі можна паказаць цені розных жывёл. Паспрабуйце гэта зрабіць самі.**

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдколегія: РАЦЭВІЧ В., (адк. рэдактар).
ШПІЦЭР У., ЯКІМОВІЧ А. (адк. сакратар).

# ЦІКАВЫЯ ФОКУСЫ

### Вада без вагі

Налейце поўную шклянку вады і зьверку шчыльна накрыйце яе лістком паперы.

Потым скоранька, ледзь прытрымліваючы паперу рукою, перавярнеце шклянку ўверх дном.



Аднімеце руку ад паперы і вада з шклянкі ня выльлецца да таго часу, пакуль папера не намокне.

Гэты фокус тлумачыцца ціскам паветры зьнізу на ліст паперы.

### Як паваліць кнігу?

Вазьмеце доўгі папяровы мяшок, палажэце на стол, на яго пастаўце кантам цяжкую вялікую кнігу і загадайце каму-небудзь з прысутных паваліць кнігу, не датыкаючыся да яе і не чапаючы стала.



Будуць ламаць галаву, якім чынам гэта можна зрабіць, але для гэтага трэба толькі пасапці ў мяшок.

### Павесіць на запалцы бутэльку

Абвяжэце бутэльку з коркам вакол рыльца вяровачкай, вольныя канцы якой завяжэце вузлом з такой умовай, каб атрымалася пятля, даўжынёй ня вышэй за корак.



Палажэце на стол запалку і прапануйце павесіць на яе бутэльку так, каб яна ня ўпала.

Далёка ня кожны дадумаецца як гэта зрабіць.



Друкарня БДВ. Зак. № 2072. У ліку 2300 экз. Галоўлітбел № 2314.